# УзГорак

№ 4 – 25 красавіка 2003 г. - Газета Грамадскіх арганізацый і ініцыятыў.

# «Зробім лепш!-03»

***Агульнанацыянальная акцыя "Зробім лепш!-03" дакацілася да Горак непасрэдна ў Дзень аховы здароўя 7 красавіка і зацягнулася на тыдзень.***

Ужо ў трэці раз у Беларусі пад эгідай Асамблеі няўрадавых дэмакратычных арганізацыяў праходзіць грамадская кампанія пад назвай "Зробім лепш!" Наш горад прымае ўдзел на працягу апошніх двух год. Сёлета "лепш рабілі" у сферы аховы здароўя Асацыяцыя дапамогі дзецям інвалідам і маладым інвалідам, грамадскае аб'яднанне "Надзея", гарадская жаночая арганізацыя "Любава".

## Пра здароўе з малітваю

Горацкія сябры Асацыяцыі дапамогі дзецям інвалідам і маладым інвалідам вырашылі акцыю прысвяціць непасрэдна сваім кліентам – мясцовым інвалідам. У памяшканні дзіцячай бібліятэкі сабралася каля 20 чалавек. Перад імі выступіў лекар, які каротка распавёў пра прафілактыку найбольш распаўсюджаных хваробаў, бібліятэкарка прэзентавала цэлы стэнд кніг, прысвечаных тэме аховы здароўя і здароваму ладу жыцця. Пасля гэтага Ала Малашэўская і Капіталіна Землякова, адданыя руплівцы, якія займаюцца праблемамі інвалідаў Горак, правялі віктарыну, дзякуючы якой кожны змог пацвердзіць свае веды "па прыкладной медыцыне". Прысутныя атрымалі лекавыя сродкі – гематаген, вітамінкі і даведнікі Правы пацыента" ад Асамблеі НДА ".

Самым чулым месцам мерапрыемства была супольная малітва святому Панцеляймону, у якога кожны інвалід змог папрасіць самага дарагога і галоўнага ў жыцці – здароўя.






## No smoking!

У чацвертай сярэдняй школе "Зробім лепш-03!" для вучняў шостага класа праводзіла грамадскае аб'яднанне "Надзея". Дзецям прапанавалі прыняць удзел у конкурсе малюнкаў на тэму аховы здароўя. Што толькі ні малявалі школьнікі! І перакрэсленыя цыгарэты, і злосных вірусаў, і зламаныя шпрыцы, і нават людзей, проста загнаных у бутэльку. Пераможцаў было вызначыць няпроста, бо ўсе разам падтрымлівалі адзін аднаго і раілі суроваму журы аддаць галоўны прыз ну каму заўгодна - толькі б аддаць. Урэшце ўсе школьнікі атрымалі вітаміны, улёткі агульнанацыянальнай кампаніі і змаглі сфатаграфавацца з арганізатарамі на доўгую-доўгую памяць. Пасля конкурсу ўсе малюнкі былі вывешаны ў фае школы і некаторыя вучні паспелі іх пабачыць у той жа вечар.

*Ілля Заранок*

# «Зробім лепш!-03»

## Дзеці на мерапрыемстве

Шыльдачкі з такім надпісам папярэджвалі бацькоў, якія прыйшлі забіраць сваіх малых з групаў "прадлёнкі", увечары 11 красавіка ў гімназіі N1. У такі час жаночая арганізацыя "Любава" ладзіла гульнёвы кольны стол для дзяцей гэтай установы. Школьнікі малодшых класаў некалькі гадзінаў сядзелі за сапраўдным "кольным" сталом і малявалі сваіх здаровых сяброў ды суседзяў. Акрамя ўсяго ім даводзілася адказваць на пытанні па тэме здароўя, чытаць вершы пра доктара Айбаліта і разглядаць раздаткі ад актыўных жанчынаў горада, якія не раілі шмат злоўжываць салодкім, прасіць у маці хот-догаў, а таксама настойвалі абавязкова мыць рукі перад ежай. Дзеці ахвотна распавядалі пра тое, як трэба чысціць зубы, а таксама паўдзельнічалі ў конкурсе на паказ фізічных практыкаванняў. Напрыканцы мерапрыемства дзеткі разам абралі ўласную "аптэкарку", якая цяпер з дня ў дзень будзе размяркоўваць атрыманыя ад "Любавы" вітамінкі ў "прадлёнцы".





### P.S.

***Бясспрэчна, тут апісаны найбольш яскравыя моманты кампаніі ў Горках. Акрамя іх з панядзелка па чацвер студэнты, сябры ЗБС, ладзілі моладзевае апытанне "Клиника, дружественная к пациенту" (анкеткі былі падрыхтаваны Асацыяцыяй Беларускіх Медыкаў і Асамблеяй НДА), раздавалі ўлёткачкі акцыі і дарылі даведнікі па правах пацыентаў.***

***На думку арганізатараў і ўдзельнікаў чарговага этапу рэспубліканскай грамадскай кампаніі, яна не толькі дазваляе вырашаць маленькія мясцовыя праблемы, прыцягваць да іх увагу прэсы, але і дапамагае станавіцца бліжэй да праблемаў, якія ёсць у нашых суседзяў па горадзе, крыху лепей разумець адзін аднаго – інвалідаў і абсалютна здаровых.***

**Ілля Заранок**

# Нарада з партнэрамі

У панядзелак адбылася чарговая працоўная сустрэча грамадскага клуба "УзГорак" з прадстаўнікамі Праграмы Партнэрства Альянса "Каунтэрпарт" у Беларусі. Былі падведзены папярэднія вынікі рэалізацыі апошніх праектаў і абмеркаваныя далейшыя крокі магчымага супрацоўніцтва.

Нагадаем, што напачатку бягучага года фінансавую падтрымку атрымалі арганізацыі «Любава» і «Надзея»

***

Площадь особо охраняемых природных территорий Могилёвской области составила в текущем году 106,145 тыс.га или 3,7% от территории области. В области насчитывается 15 памятников природы республиканского и 74 - местного значения; 3 заказника республиканского значения располагаются на площади 32,233 тыс. га, что составляет 1,1% от территории области, 178 заказников местного значения занимают площадь 72,212 тыс. га или 2,5% от общей территории.

***«Бизнес курьер»***

# Гуманитарка из Ирландии

Второй год подряд в наш город приходит гуманитарный груз из Ирландии, предоставляемый Беларуси в рамках программы «Детям чернобыля». В этот раз к нам прибыли два большегрузных автомобиля. В одном из них было медицинское оборудование, предназначенное для райбольницы, где оно и было разгружено, в другом - двадцать семь наименований продуктов, одежды и предметов гигиены, общим весом около девяти тонн. Эту машину выгрузили в Центре социального обслуживания. Часть груза пойдет в Старосельский интернат, остальное будет распределено среди тех, у кого доходы на члена семьи ниже прожиточного минимума. Однако спешить на Красинскую-3а пока не стоит. Дело в том, что поступившая помощь должна пройти процедуру растаможивания и определенный карантин, поэтому выдавать ее начнут только через полтора-два месяца. За это время размеры прожиточного минимума могут и поменяться.

***Уласная інфармацыя***

# Саветаяшчэняма,але кіраўнікужоабраны

## Горацкаявертыкальпрадпрынялачарговуюсправупадмяцьпад сябе“усе,штояшчэшавеліцца”.Нагэтыразаб’ектамувгісталі грамадскіяарганізацыі.

У мінулы чаивер у будынку райвыканкама па ініцыятыве «вертыкалі» Горак адбылося ўстаноўчае паседжанне Каардынацыйнага савету грамадскіх і ўладных структураў.

На паседжанне былі запрошаны толькі зарэгістраваныя аб’яднанні горада. Прысутнічалі сябры мясцовых зарэгістраваных партыяў - КПБ, ПКБ і патрыятычнае партыі. Пачалося мерапрыемства з выступу намесніцы старшыні райвыканкама сп. Карнеевай, якая ні з таго ні з сяго заявіла, што клуб «УзГорак» не апраўдаў ускладзеныя на яго функцыі: арганізацыі не знайшлі супольных мэтаў, не вызначыліся з прыярытэтамі, засталося шмат незадаволеных кіраўнікоў. На якой падставе Наталля Васіль’яўна зрабіла такую выснову, засталося невядомым - на паседжаннях клуба “УзГорак” яна ў апошні час не прысутнічала, спаылаючыся на больш важныя справы. Да таго ж, клуб ствараўся ня ўладаю, а самімі грамадскімі арганізацыямі і вырашаць - апраўдаў ен све прызначэнне, ці не павінны, напэўна, былі б яны. Ігнаруючы гэтыя відавочныя рэчы, вертыкаль прапанавала стварыць альтэрнатыўную структуру з зацікаўленых, актыўных людзей горада, якія хочуць працаваць на яго жыхароў.

Усім прысутным быў раздадзены статут будучага Каралдынацыйнага савета. Пасля нядоўгага чытання дакументу і адстунасці ягонага абмеркавання Савет не быў утвораны і не быў зацверджаны спіс ягоных сяброў. тым ня меньш улады адразу прапанавалі перайсці да выбараў старшыні ,ягоных намеснікаў і сакратара. Старшынёй была абрана кіраўніца арагнізацыі «Надзея» сп. Наталля Карпушэнка, намесніцай - Таццяна Кіраенкава, лідэр «Любавы» ,якая не ведае, ці застанецца ў гэтай структуры, бо ёсць «УзГорак», якія б праблемы там не былі - структура створана і яе трэба ўдасканальваць.

Пасля абрання кіраўніцтва выканкамаўцы прапанавалі супрацу нават ініцыятывам і папрасілі абмеркаваць Статут Савету ў найбліжэйшы час, унесці свае прапановы ў яго, а потым аформіць саму стурктуру.

У лепшых традыцыях цяперашняй улады кіраўнікам грамадскіх арганізацыяў было прапанавана да 15 траўня прадаставіць ў райвыканкам перспектыўныя планы працы.

Кіраўнік клуба «УзГорак» Эдуард Брокараў дзівіцца, бо месяцы два назад сп. Карнеева, калі распавядала пра магчымае ўтварэнне такога Савету, казала пра тое, што ён будзе толькі дапаўняць працу грамадскага клуба ,на які ўлады ўскладаюць вялікія надзеі. Сёння ж ураніцы сп. Брокараў быў папярэджаны, што на паседжанне яму лепей не з’яўляцца.

У бліжэйшы час адбудзецца паседжанне грамадскага клуба “УзГорак”, на якім будзе абмеркаваны далейшыя дзеянні уваходзячых у яго арганізацыяў, з улікам прадпрынятай уладамі спробы расколоць грамадскі рух у горадзе і зрабіць незалежныя арганізацыі “ручнымі”.

***Дзядзька Тарас***



# Международная конференция

## В ПАМЯТЬ О ПРОФЕССОРЕ Ф. К. КУРОПАТЕНКО

В канун 100-летия со дня рождения профессора Ф. К. Куропатенко. в академии состоялась научно-практическая конференция, рассматривающая проблемы землеустройства в современных условиях. В ней приняли участие делегации из Эстонии, России, Латвии, Украины, Молдовы, Казахстана и других стран ближнего зарубежья. На конференции работали три секции: «Современные проблемы землеустройства, использование и охрана земель», «Актуальные проблемы кадастра земель и управления земельными ресурсами», «Геодезическое и картографическое обеспечение землеустройства и земельного кадастра».

Особый интерес у специалистов вызывали выступления, кроме Горецких учёных, исследователей из Прибалтийских республик. Так, для нас как-то странно выглядит незавидное положение Латвии, при вступлении в Европейское экономическое сообщество, когда руководство ЕЭС потребовало от Латвии в два раза снизить производство сельхозпродукции. До этого, себя полностью обеспечивающей всеми необходимыми продуктами питания

Таким образом, похоже, что очень много полезного почерпнули все участники этой конференции. Живое общение, когда задается масса вопросов, идут объективные ответы: рассматриваются различные точки зрения, дает уверенность в лучшем будущем.

***В. Линьков***

# Память Чернобыля



Двадцать шестого апреля исполняется семнадцать лет со дня трагедии Чернобыльской АЭС. Атом в очередной раз преподал урок земной цивилизации, напомнив, что он может выступать как созидателем, так и разрушителем.

В первое время было какое-то оцепенение. Вряд ли кто из руководителей тогдашнего Советского Союза мог предположить, что подобное может случиться. На ликвидацию аварии были брошены тысячи людей различных специальностей и должностей. Среди них были сотрудники Горецкого РОВД, в том числе автор этих строк. Назову лишь некоторые фамилии. Это Цыркунов Юрий Тихонович, Кабешев Сергей Иванович, Богачев Сергей Алексеевич, Радьков Сергей Васильевич, Тишков Виктор Николаевич, Кривицкий Александр Дмитриевич.

Из числа гражданского населения в ликвидации участвовали Агеев Петр Васильевич, Тариков Михаил Григорьевич, ныне работающие в БГСХА.

Коварство атома не знает границ. Нет уже среди нас Ващиленкова Вадима Герасимовича, Горбатенко Ивана Михайловича, Котова Сергея Константиновича. Земля вам пухом, царствие небесное.

Инвалидом стал Готовчик Иван Иванович, не блещут здоровьем и остальные ликвидаторы. А кому-то из государственных чиновников кажется, что у чернобыльцев «ну очень большие незаслуженные льготы». Начался пересмотр льгот и то, что ранее было гарантировано государством, сведено на нет. Конечно, обидно. Здоровье положили, а взамен что? Но жизнь идет и никто из нас не унывает и надеется на лучшее. Дай Бог, чтобы оно так и было. А пока надо сделать так, чтобы хоть в этот день не был обделен вниманием ни один чернобылец. Поверьте. Они этого заслужили.

Василий Таратун, участник ликвидации аварии на ЧАЭС в 1986 году.

***Василий Таратун***

***

Как сообщили российские телеканалы, на Украине рассекречены данные, согласно которым, чернобыльская катастрофа была практически неизбежной в связи с конструктивными особенностями третьего и четвертого блоков станции. В 1982 году там произошла небольшая авария, которую удалось скрыть от общественности.

Сегодня на территории, зараженной радионуклеидами, проживает более семи миллионов человек. За прошедшие годы в результате катастрофы умерло около трехсот тысяч.

Чернобыльская трагедия может иметь продолжение.

Ряд украинских официальных лиц заявляет, что существующий саркофаг над разрушенным блоком ЧАЭС постепенно приходит в негодность и может в любой момент рухнуть окончательно. Для его ремонта и укрепления необходимы значительные средства, которыми Украина не располагает. Подтекст ясен: если мировое сообщество не желает новых ядерных проблем, то пусть поможет материально.

# Каталікі й пратэстанты сьвяткуюць Вялікдзень

***Сёлета 21 красавіка вернікі каталіцкай і пратэстанцкай цэркваў адзначаюць як другі дзень велікодных сьвятаў. Праваслаўныя вернікі да дня Ўваскрашэньня яшчэ толькі рыхтуюцца. Але ўсе яны аднолькава не задаволеныя, што цяперашнія ўлады скасавалі агульнадзяржаўны выходны на другі дзень Вялікадня.***

Сёньня набажэнствы ў каталіцкіх касьцёлах, пратэстанцкіх малельных дамах адбываюцца паводле раскладу сьвяточных і выходных — некалькі разоў запар. Учорашняга ажыўленьня тут няма, і хоць бажніцы не пустыя, большасьць наведнікаў — людзі пэнсійнага веку. Больш маладыя, рабочыя альбо студэнты прыйшлі памаліцца, як кажуць, на ўласны страх і рызыку, бо давялося цішком пакідаць працоўныя месцы альбо аўдыторыі.

Ванда Закрэўская, да прыкладу, кажа, што прасіла сваіх каляжанак па працы, каб падмянілі яе.

“Трэба сьвяткаваць два дні, бо што адзін? Так шмат трэба зрабіць у пляне традыцыяў, трэба і крыху адпачыць. І ня так, каб пабегчы ў той жа касьцёл і ўсё на хаду, але каб гэта заставалася ў душы. Бо цяпер я, да прыкладу, магу з працы адлучыцца на хвілінку, каб зайсьці памаліцца. Але ж вельмі многія людзі ня могуць гэтага зрабіць”.

Праваслаўныя вернікі да сьвята яшчэ толькі рыхтуюцца: посьцяць, рыхтуюцца пячы булкі й фарбаваць яйкі. Яны ўважаюць Вялікдзень за найважнейшае сьвята. Многія зь іх не задаволеныя пэрспэктывай працы на другі дзень Уваскрашэньня. У многіх месцах Беларусі — гэта яшчэ й час наведваньня могілак. Таму яны спадзяюцца, што ўлады адменяць сваё колішняе рашэньне пра скасаваньне выходнага.

Гаворыць Аляксандар Стрэльскі:

“У праваслаўнай канфэсіі ёсьць такая традыцыя хадзіць адзін да аднаго ў госьці, адпачываць, хадзіць у царкву, каб славіць Хрыста. І працаваць у гэты дзень вельмі непрыемна. Колькі гадоў таму і на каталіцкі Вялікдзень і на праваслаўны другі дзень быў выходны. Чаму цяпер здарылася так, што яго ня стала — незразумела й непрыемна. Мне бы хацелася, каб гэта быў выходны, бо на другі дзень можна было бы зьезьдзіць на магілкі да сваіх родных, але сёньня такой магчымасьці няма”.



А падсумаваў нашую размову чалавек, які паведаміў, што зьяўляецца супрацоўнікам Міністэрства культуры, але не пажадаў назваць сваё імя. Ён таксама назваўся праваслаўным, які наведвае касьцёл. Паводле суразмоўцы, дзяржаваўныя ўлады толькі фармальна дэкляруюць лаяльнасьць да беларускіх вернікаў. Варажнеча ж да царквы, асабліва неправаслаўнай, амаль не прыхаваная, — сказаў ён.

“Ці насамрэч дзяржава ўсур’ёз павярнулася да вернікаў без палітычных амбіцыяў? Сумняюся, што гэта ў сапраўднасьці й чыста. Можна, да прыкладу, набыць духоўную літаратуру, але складана думаць — за што. Маці ў адной менскай установе яйка дзеліць напалову са сваёй дачкой — гэта адзін такі прыклад. А ўвогуле гэткі “клопат” шмат у якіх сытуацыях праяўляецца, асабліва да вернікаў неправаслаўнай канфэсіі”.

Пацьверджаньнем гэтых словаў ёсьць закон аб веравызнаньні, прызнаны недэмакратычным і дыскрымінацыйным, які дае дзяржаўныя прывілеі праваслаўнай царкве. А прыняты ён быў насуперак шматлікім пратэстам вернікаў.

***Галіна Абакунчык***
***«Радыё Свабода»***

Ільля Заранок

# Тыдзень экалогіі



Пачынаючы з дваццаць першага красавіка ў Беларускай дзяржаўнай сельскагаспадарчай акадэміі пройдзе тыдзень “Экалагічнай дысцыпліны”, у якім возьмуць удзел не толькі адміністрацыя навучальнай установы, суполка Беларускага рэспулбіканскага саюза моладзі, але і сябры мясцовых моладзевых няўрадавых арганізацыяў.

Галоўным мерапрыемствам тыдня будзе змаганне з паленнем. У акадэміі даўно накладзена афіцыйнае табу на паленне ў забароненых месцах. Пра гэта вісяць абвесткі каля ўсіх дэканатаў установы. Аднак не зважаючы на гэта, многія (і студэнты і некаторыя выкладчыкі) працягваюць паліць па-за адмыслова прызначанымі для гэтага месцамі. Цяпер супраць парушальнікаў абяцаюць увесці самыя суворыя меры, якія могуць завершыцца вымовамі па адпаведных дэканатах.

У дадатак да палення актыў акадэміі збіраецца расправіцца з яшчэ адной “гора-бядой” - несанкцыянаванымі стаянкамі каля галоўнага дзясятага корпуса ВНУ (тут на дапамогу арагнізатарам мерапрыемства прыйдуць супрацоўнікі Горацкага ДАІ).

Акрамя ўсяго ў акцыі будзе інфармацыйная падтрымка - факультэцкія сценгазеты і акадэмічная шматтыражка “Советский студент”.

З няўрадавых арагнізацыяў у акцыі возьмуць удзел прадстаўнікі Задзіночання Беларускіх Студэнтаў і Грамадзянскага Форума. Гэта сталася магчымым пасля адкрытага дыялогу паміж гэтымі арганізацыямі, БРСМ, студэнцкім прафкамам і адміністрацыяй акадэміі, пра які паведамлялася раней.

# Канфлікт у Бялынічах

Базыль Ліцьвіновіч

Альтэрнатыву сістэме райспажыўтаварыства ў Бялынічах ствараюць 200 індывідуальных прадпрымальнікаў, якія гандлююць рэчамі і прадуктамі харчавання. За мінулы год яны пералічылі ў мясцовы бюджэт 282 мільёны рублёў падаткаў,што складае каля 5% агульных паступленняў. Не так даўно райвыканкам зацвердзіў праграму дзяржаўнай падтрымкі малога бізнесу раёна ў бягучым годзе.

Аднак, не зважаючы на відавочную карысць прадпрымальніцкай дзейнасці для дзяржавы, гандляры сутыкаюцца з усё новымі неабгрунтаванымі патрабаваннямі мясцовай ўлады

Больш за год таму, нягледзячы на супраціў прадпрымальнікаў, іх перасялілі з цэнтру мястэчка на паўночную ўскраіну, пад сцены магазіна “Гаспадарчыя тавары”. Апошні, відавочна, не вытрымлівае канкурэнцыі і прыходзіць у заняпад, таму зараз прадпрымальнікаў вымушаюць перасяліцца ў сам магазін. “Індывідуалы” ад перасялення адмовіліся, бо ў такім выпадку будуць вымушаны аплочваць арэнду месца ў былой краме, і ў адказ атрымалі забарону на гандаль з палатак на пляцы рынку.

У выніку, цярпяць усе - бялынічане, якія пазбаўлены магчымасці набываць тавар на рынку; індывідуальныя прадпрымальнікі, якія не могуць весці гандаль; раённы бюджэт, які не атрымае падаткі за перыяд вымушанага прастою прадпрымальнікаў.

Канфлікт пакуль не вырашаны. Улічваючы слабую арганізаванасць мясцовых прадпрымальнікаў, можна чакаць, што яны ў чарговы раз праявяць паслухмянасць і пакорлівасць.

# У Францыі адкрываецца фэстываль Беларускага тэатру

***Сёньня ў Францыі адкрываецца фэстываль беларускага тэатральнага мастацтва. Ён будзе праходзіць у горадзе Клермон Фэро. Гэты горад ужо 25 гадоў ёсьць пабрацімам беларускага Гомелю, і ўлады гораду сумесна з францускай тэатральнай кампаніяй “Brut de Beton production” узялі ўдзел у арганізацыі фэстывалю.***

А гісторыя гэта пачалася з таго, што францускі рэжысэр Бруно Бусаголь падрыхтаваў спэктакль паводле кнігі Сьвятланы Алексіевіч “Чарнобыльская малітва”, і ў красавіку мінулага году ён быў паказаны ў Гомелі. Удзельніца спэктакля і адна з асноўных арганізатараў сёньняшняй падзеі, беларуска з Парыжу Вірджынія Шыманец успамінае:

“Тады, калі мы былі ў Беларусі, нарадзілася ідэя аддаць назад дабро, якое людзі нам далі ў Беларусі, і Бруно быў вельмі-вельмі зацікаўлены, ён пасустракаўся з многімі людзьмі і пачаў будаваць структуру гэтага фэстывалю”.

У фэстывалі возьмуць удзел каля 80 прадстаўнікоў творчай інтэлігенцыі зь Беларусі, сярод іх будуць рэжысэр Мікалай Пінігін, артыстка Тацяна Мархель, пісьменьніца Сьвятлана Алексіевіч. Сьвята прадоўжыцца да 20 мая. На розных сцэнах гораду будуць паказаныя спэктаклі і канцэрты беларускіх тэатральных і мастацкіх калектываў.

**Ганна Сурмач**
**«Радыё Свабода»**

# Стварэнне ў акадэміі органаў студэнцкага самакіравання




27 сакавіка ў памяшканні суполкі БРСМ сельскагаспадарчай акадэміі адбылася сустрэча прадстаўнікоў моладзевых няўрадавых арганізацый Горак і адміністрацыі ВНУ з мэтай абмеркавання стварэння ў акадэміі органаў студэнцкага самакіравання.

На сустрэчы прысутнічалі актывісты мясцовых філіяў Грамадзянскага Форуму, БРСМу, прадстаўнік студэнцкага прафкама, ЗБС і прарэктар па выхаваўчай і інфармацыйнай працы Васіль Неўдах. У БДСГА ужо дзейнічае Каардынацыйная Рада, якая мае значныя паўнамоцтвы ў межах ВНУ на вырашэнне студэнцкіх праблем, дапамогу ў арганізацыі вольнага часу і наладжванні жыцця ў інтэрнатах. На думку прысутных, склад Рады не зусім адпавядае абавязкам, ускладзеным на яе. Удзельнікі мерапрыемства прыйшлі да агульнай згоды, што дзейнасць Рады неабходна актывізаваць праз удзел новых, актыўных ды зацікаўленых людзей. З боку адміністрацыі выказана пажаданне ўзгадняць у дэканатах кандыдатуры новых чальцоў Каардынацыйнай Рады, вылучаных студэнтамі.

Удзельнікі мерапрыемства ацэньваюць яго пазітыўна і спадзяюцца на супрацоўніцтва.

**Ільля Заранок**

# Задолженость по зарплате



Задолженность по выплате заработной платы в Могилёве в марте составила 234,7 млн. рублей. Это 0,7% месячного фонда заработной платы. Среди должников стабильно фигурируют строительные организациии. Некоторым предприятиям по-прежнему для выплаты зарплаты приходится пользоваться банковскими кредитами.

***«Днепровская неделя»***

# Пазоў аб ліквідацыі грамадзкага аб'яднаньня «Ратуша»

***Заява ў абласны суд грунтуецца на двух папярэджаньнях "Ратушы". Цягам году аб'яднаньне папярэдзілі за друк кніжкі беларускага фальклёру і за валоданьне рызографам. За апошняе старшыню "Ратушы" Аляксандра Мілінкевіча днямі аштрафавала адміністрацыйная камісія. Падстава — адсутнасьць ліцэнзіі на паліграфічную дзейнасьць.***




Днямі Аляксандар Мілінкевіч адаслаў ліст у міністэрства інфармацыі. У ім тлумачыцца, што "Ратуша"— "некамэрцыйнае, непрыбытковае, дабрачыннае аб'яднаньне, якое не вядзе гаспадарчай дзейнасьці". Тым часам, як палажэньне аб ліцэнзаваньні паліграфічнай дзейнасьці датычыць толькі суб'ектаў гаспадараньня. Гаворыць намесьнік старшыні аб'яднаньня Фэлікс Гавін:

"Я думаю, што на сёньняшні дзень галоўнае, каб людзі, арганізацыі, якія атрымоўвалі падтрымку, атрымоўвалі яе і надалей. Гэта зараз нашая падставовая задача. Што датычыць самога суду, нашых дзеяньняў, зьвязаных з гэтым, я думаю, што зараз яшчэ рана казаць, што мы будзем рабіць. У нас плянуецца паседжаньне нашай арганізацыі, на якім мы будзьма супольна вызначаць стратэгію нашых дзеяньняў".

Грамадзкае аб'яднаньне "Ратуша" існуе дакладна сем гадоў. Апошнім часам аб'яднаньне аказвала разнастайную дапамогу прыблізна ста арганізацыям ды ініцыятывам, у тым ліку незарэгістраваным, і ў Горадні, і ў райцэнтрах. Дзяржаўныя органы не аднойчы давалі папярэджаньні і рабілі ператрусы ў памяшканьні "Ратушы".

***Сяргей Астраўцоў***
***«Радыё Свабода»***

## Весткі ад суседзяў

### ЧАВУСЫ

За апошнія 10 год беспрацоўе ў раёне дасягнула максімальнага ўзроўню летась, калі за дапамогай па працаўладкаванні звярнулася 780 чалавек. Не лепшыя прагнозы і на бягучы год. Толькі за першы квартал звярнулася ўжо 200 чалавек, у красавікумаі па так званым афіцыйным скарачэнні працу страціць яшчэ каля 100 чалавек. Усяго ў народнай гаспадарцы раёна не занята каля трох тысяч працаздольнага насельніцтва, але не ўсе яны прэтэндуюць на статус беспрацоўнага: некаторыя знайшлі працу па-за межамі раёна, некаторыя заняты ў прыватным сектары.

*"Іскра"*

### БЯЛЫНІЧЫ

Будоўля Траецкай царквы ў Галоўчыне пачалася 10 год таму, аднак, з прычыны адсутнасці фінансавання, работы спыніліся.

Актывісты мясцовай праваслаўнай парафіі звярнуліся з просьбай аб аказані дапамогі да жыхароў Швецыі. Адпаведны ліст падрыхтаваны і на імя мэра Масквы Ю.М.Лужкова.

Як вядома, у 1708 годзе каля Галоўчына адбылася крываправлітная бітва паміж войскамі Карла XII і Пятра 1. У Галоўчынскай зямлі знайшлі прытулак некалькі тысяч шведскіх і рускіх ваяроў. Жыхары вёскі маюць намер ператварыць будучы храм у мемарыяльны комплекс.

*"Зара над Друццю"*

### Крычаў

Кіраўнік Крычаўскай раённай арганізацыі Беларускага народнага фронту зарэгістраваны мясцовым выканаўчым камітэтам індывідуальным прадпрымальнікам з правам выдання газет. Сп.Кудраўцаў плануе выдаваць недзяржаўную грамадска-палітычную газету і зараз заняты ўзгадненнем адраса рэдакцыі.

***

Стала вядома месцазнаходжанне аднаго з кампутараў, канфіскаваных у грамадскай рэдакцыі незарэгістраванай крычаўскай газеты "Вольны горад" ў ліпені 2001 года. Тады грамадскія карэспандэнты газеты былі абвінавачаны ў захопе закладніка, а тэхніка канфіскавана ў даход дзяржавы.

Амаль праз два гады высветлілася, што кампутарам для вёрсткі карыстаюцца эксперты-крыміналісты Крычаўскага РАУС.

*Андрэй Кузьмін*

### Магілёў

З грузам гуманітарнай дапамогі дэлегацыя Каталіцкага працоўнага руху (КАВ) зь нямецкага Фрэдану наведала Магілёў. Большая частка дапамогі— а гэта медычнае абсталяваньне, снадзіва, мебля— была адрасаваная больніцы вытворчага аб'яднаньня "Хімвалакно". Прывезьлі нямецкія госьці і асабовыя пакункі для сем'яў, якімі апякуюцца сем'і нямецкія.

За час знаходжаньня нямецкая дэлегацыя наведала шэраг дзяржаўных установаў, дзе абмяркоўваліся перспэктывы гуманітарнага супрацоўніцтва між Беларусьсю і Нямеччынай. Гэтыя ж пытаньні былі прадметам абмеркаваньня і з прадстаўнікамі грамадзкіх арганізацыяў Магілёва.

Геаграфія прысутнасьці нямецкіх гасьцей не абмяжоўвалася Магілёвам. У Горках, да прыкладу, адбылася сустрэча з фальклёрным ансамблем "Верасень", які летась і пазалетась гасьцяваў у Фрэдане. А ў Слаўгарадзкім раёне дэлегацыя Каталіцкага працоўнага руху ня толькі знаёмілася зь мясцовым ладам жыцьця і станам гаспадаркі, але наведала і нямецкія магілкі часоў другой сусьветнае вайны і прапанавала дапамогу ў навядзеньні парадку на іх.

Гісторыя супрацоўніцтва Каталіцкага працоўнага руху з магілёўскімі гуманітарнымі структурамі сягае ў 1993 год. Цягам гэтага часу больш за 400 дзяцей з Чарнобыльскіх раёнаў адпачылі ў Нямеччыне і наладзілі стасункі з тамтэйшымі сем'ямі. Увогуле ж КАВ дзеіць ад 20-х гадоў XX стагодзьдзя.

*Алесь Асіпцоў*

### МПУ принимает волонтёров

Слёт волонтёров высших учебных заведений Могилёвской области состоится во вторник в Могилёвском государственном университете имени А. Кулешова. Программой слёта предусмотрено подведение итогов волонтёрской деятельности вузов за 2002 -- 2003 учебный год, обмен опытом работы, а также награждение победителей конкурса, лучших организаторов волонтерской деятельности и наиболее активных волонтеров. В рамках программы слёта волонтеры посетят выставку творчества «Мир, в котором мы живем» ребят из детских учреждений закрытого типа, проведут круглый стол, на котором обсудят формы и методы волонтёрской работы. Организаторами слёта выступили отдел по делам молодежи облисполкома, МГУ им. А. Кулешова и областное отделение Фонда «Милосердие и здоровье».

**http://www.region.mogilev.by/**

Областной комитет природных ресурсов и охраны окружающей среды объявляет областной конкурс на лучшее освещение в печати, по радио, в передачах телевидения проблем экологии, воспитания чувства бережного отношения к растительному и животному миру.

Для участия приглашаются редакции газет, радио и телевидения, журналисты средств массовой информации и внештатный авторский актив. Для победителей установлены премии.

## Рэгіён

### Ограблен центральный универмаг

На минувшей неделе из центрального универмага ночью были похищены телевизоры и пальто на сумму более восьми миллионов рублей. По имеющейся у нас информации, похитители выбрали момент, когда сторож, охранявший несколько объектов, на месте отсутствовал.

### Детские игры, как зеркало мировой политики

Об этом случае рассказала нам одна из читательниц газеты. Проходя по переулку, она обратила внимание на играющих в войну мальчишек. Одни из них, по ее наблюдениям, были «иракцами», а другие - «американцами». Кто победил в «локальном конфликте» осталось невыясненным.

А когда-то играли в Чапаева

***Иван Морозов.***

***

***Футбольный сезон открывается*** в этом году матчами в младшей возрастной группе. Начиная с 28 апреля, команды школ города проведут соревнования среди участников 1991-92 годов. В начале мая сыграют ребята на два года старше, а затем - сборные старшеклассников.

Начало игр младшей группы - в 13.00

Газета УзГорак
**Рэдактар** - ***Эдуард Брокараў;***
**тэхнічны рэдактар** - ***Дзям"ян Франкоўскі.***
**E-mail**: dnescer@tut.by
Выпуск-3, ад 25.03.2003 г. Фармат - А-4, 8 палос. Наклад - 299 асобнікаў.
**Адрас рэдакцыі:** *г. Горкі, зав. 2-гі Магілёўскі, д.1.* Надрукавана на тэхніцы горацкага РА РГА «***Беларускі рэспубліканскі клуб выбаршчыкаў***».